Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка

№11 снежань 2011

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

## З Новым Годам!!!



## Павіншуй палітвязняў з Калядамі і Новым годам

# Павіншуй палітвязняў з Калядамі і Новым годам

## Падтрымаць іх можна паштоўкай, лістом, тэлеграмай.

***За кратамі знаходзяцца палітвязняволеныя: экс-кандыдаты ў прэзідэнты Мікалай Статкевіч, Андрэй Саннікаў, праваабаронца Алесь Бяляцкі, грамадскія дзеячы Дзмітрый Бандарэнка, Зміцер Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Павел Севярынец Сяргей Каваленка, анархісты Ігар Аліневіч, Мікалай Дзядок, Аляксандр Францкевіч, Яўген Васьковіч, Павел Сырамалотаў і Арцём Пракапенка, прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч.***

**Алесь Бяляцкі**
222160, Менская вобл., г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А, турма № 8

**Каваленка Сяргей**
210026 г. Віцебск, вул. Гагарына 2, СІЗА–2

**Андрэй Саннікаў**
211300, Віцебская вобл., Віцебскі р-н, п.Віцьба, папраўчая калонія №3

**Зміцер Бандарэнка**
213105 г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, п / а Вейна, папраўчая калонія № 15

**Эдуард Лобаў**
225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, "Воўчыя норы", а / с 20, папраўчая калонія № 22

**Мікола Статкевіч**
212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а
турма № 4

**Зміцер Дашкевіч**
211791, Віцебская вобл., г.Глыбокае, вул. Савецкая, 205, папраўчая калонія № 13

**Павал Севярынец**
225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в. Куплін, ПУАТ-7

**Мікалай Дзядок**
213105 г. Магілёў, п/а Вейна, Слаўгарадская шаша, 183, папраўчая калонія № 15, атрад 4

**Аляксандр Францкевіч**
225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, "Воўчыя норы", а / я 20, папраўчая калонія № 22

**Ігар Аліневіч**
211440 Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія № 10

**Яўген Васьковіч**
212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а турма № 4

**Арцём Пракапенка**
213004, Магілёўская вобл., г.Шклоў, ПК-17, атрад №15

**Павал Сырамолатаў**
213030, г. Магілёў, Слаўгарадзкая шаша, 3 км, ПК №19

**Мікалай Аўтуховіч**
225293, Брэсцкая вобласць, г. Івацэвічы-3, ПК-5, атрад 13

# Зварот прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці з нагоды пачатку збору сродкаў для праваабаронцы Алеся Бяляцкага

24 лістапада 2011 г. судом Першамайскага раёна г. Мінска віцэпрэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і старшыня Праваабарончага цэнтру “Вясна” Алесь Бяляцкі быў прыгавораны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Нягледзячы на абстрактны характар абвінавачання, абсалютную адсутнасць доказаў, вялікую колькасць працэсуальных парушэнняў, супярэчанне абвінавачання беларускаму заканадаўству і міжнародным абавязкам Рэспублікі Беларусь, суд беспадстаўна прызнаў вінаватым Алеся Бяляцкага ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры, праігнараваўшы аб’ектыўныя сведчанні пра тое, што замежныя сродкі накіроўваліся не на ягоную карысць, а выключна на вызначаныя мэты праваабарончай дзейнасці. У сувязі з гэтым дадзеныя сродкі не з’яўляліся аб’ектам падаткаабкладання. Насуперак заканадаўству суд прызнаў сродкі, накіраваныя Праваабарончаму цэнтру “Вясна” у якасці дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў і парушэнняў правоў чалавека, асабістым прыбыткам Алеся Бяляцкага. Працэс па справе старшыні Праваабарончага цэнтру “Вясна” ў чарговы раз паказаў, што ў Беларусі адсутнічае незалежны і аб’ектыўны суд.

Алесь Бяляцкі не прызнае сваёй віны ў інкрымінаваным яму злачынстве і настойвае на сваім апраўданні. Прысуд абскарджаны згодна з заканадаўствам у касацыйным парадку ў Мінскі гарадскі суд.

Мы, прадстаўнікі беларускай грамадзянскай супольнасці, асуджаем незаконны прысуд Алесю Бяляцкаму і, улічваючы палітычную матываванасць справы, лічым, што ў дадзенай сітуацыі неабходна прыкласці ўсе намаганні для найхутчэйшага яго вызвалення.




Мы заклікаем беларускае грамадства праявіць салідарнасць з Алесем Бяляцкім і Праваабарончым цэнтрам “Вясна”, які ў экстрэмальных умовах вось ужо 15 год бароніць правы беларускіх грамадзянаў.

У сувязі з гэтым, з мэтай найхутчэйшага вызвалення Алеся Бяляцкага ці як мінімум змены меры стрымання альбо змякчэння надзвычай жорсткага прысуду, мы распачынаем кампанію па зборы сродкаў, якія былі прысуджаныя Алесю Бяляцкаму да выплаты ў якасці “шкоды, нанесенай злачынствам”.

Сума, якую неабходна сабраць, складае 757.526.717 (семсот пяцьдзесят сем мільёнаў пяцсот дваццаць шэсць тысяч семсот сямнаццаць) рублёў.

Гэтую суму важна ўнесці да разгляду касацыйнай скаргі ў Мінскім гарадскім судзе, таму сабраць неабходныя сродкі мы просім як мага хутчэй, на працягу бліжэйшых некалькіх тыдняў, каб гэта магло паўплываць на вызначэнне касацыйнай інстанцыі.

Сума, якую неабходна ўнесці, сапраўды вельмі вялікая, але пасільная, калі беларускае грамадства праявіць свае найлепшыя якасці – салідарнасць, адказнасць, імкненне і волю да справядлівасці.

Мы падкрэсліваем, што пералічэнне гэтых грашовых сродкаў не азначае прызнання віны Алесем Бяляцкім – гэта толькі наша салідарная акцыя, накіраваная на вызваленне незаконна асуджанага праваабаронцы.

Грошы ў любым памеры могуць быць пералічаныя на рахунак, адкрыты на імя жонкі Алеся Бяляцкага:

УВАГА! Грошы могуць пералічаць толькі грамадзяне Рэспублікі Беларусь.

Філіял №529 “Белсвязь” ААТ “АСБ Беларусбанк”, код банка 720, аддзяленне 112.

№ банкаўскага ўкладу: 01053568 (да запатрабавання)

від плацяжа: ахвяраванне (альбо дабраахвотны плацеж)

Атрымальнік плацяжа: Пінчук Наталля Сяргееўна.

Раім праводзіць аплату ў аддзяленнях "Беларусбанка" (каб пазбегнуць лішніх банкаўскіх плацяжоў)

У далейшым сродкі будуць накіраваны на адпаведны дзяржаўны рахунак.

Шаноўныя грамадзяне, мы просім кожнага пералічыць любую магчымую для Вас суму грошай у якасці ахвяравання праз аддзяленні банкаў, а арыгінал квітанцыі даслаць на адрас: 220012 г. Мінск, пр. Незалежнасці, д.78а, кв.48.

Таксама з намі можна звязацца па тэлефоне +375 17 331 08 44 (гарадскі) ці праз электронную скрыню viasna@spring96.org

Алег Гулак, Інна Кулей, Барыс Звозскаў, Алена Танкачова, Жанна Літвіна, Сяргей Мацкевіч, Валянцін Стэфановіч, Аляксандр Мілінкевіч, Раіса Міхайлоўская,-Таццяна Рэвяка, Алег Волчак

# Хроніка правапарушэнняў

*((( Гарадзеншчына, кастрычнік )))*



8 кастрычніка каардынатара Народнага сходу ў Гародні Юрыя Істоміна затрымалі ў пракуратуры да таго часу, пакуль сход не завершыўся. Яшчэ раніцай Юры Істомін заўважыў, што за ім сочаць каля яго дому некалькі людзей у цывільным. Актывісту прызначылі зьявіцца ў Гарадзенскую абласную пракуратуру па справе арганізацыі Народнага сходу. Супрацоўнікі міліцыі суправаджалі яго да самой пракуратуры, дзе ён і знаходзіўся з 11-ай гадзіны да 14.30.

Адказаць на шэраг пытаньняў міліцыянтаў быў змушаны актывіст Руху "За Свабоду" з Бярозаўкі Сяргей Трафімчык. 7 кастрычніка ён быў затрыманы супрацоўнікамі ДАІ ў Мастах, куды ехаў да свайго сябра. У выніку, паводле санкцыі пракурора, у яго агледзелі машыну, канфіскавалі шэраг інфармацыйных матэрыялаў і затрымалі на нявызначаны час і саму машыну. 8 кастрычніка Сяргей Трафімчык паводле позвы наведаў раённае аддзяленьне міліцыі ў Мастах. Забраныя машина, ноўтбук і іншыя рэчы дагэтуль не вернутыя.

8 кастрычніка па дарозе з Слоніма да Менску быў затрыманы Іван Шэга супрацоўнікамі ДАІ Карэліцкага РАУС. Спадар Шэга планаваў ехаць у Менск на прыватнай маршрутцы, але гаспадару маршруткі загадалі яго не браць. Тады Іван Шэга паехаў на ўласным аўто. Пасля затрыманьня даішнікі пратрымалі яго тры гадзіны і адпусьцілі, не прад'явіўшы ніякіх абвінавачаньняў.

10 кастрычніка у судзе Ленінскага раёну Гародні прадоўжыўся разгляд адміністрацыйнай справы мясцовага праваабаронцы Віктара Сазонава. Напомнім, што Віктар Сазонаў быў затрыманы 23 жніўня ў час раздаваньня жыхарам гораду над Нёманам адмысловых бюлетэняў і ўлётак пра ўтрыманьне за кратамі лідара праваабарончай арганізацыі «Вясна» Алеся Бяляцкага. Судовы разгляд справы суддзёй Ксеніяй Стасюкевіч пачаўся яшчэ 21 верасьня, але быў перанесены ажно на 10 кастрычніка. Урэшце Віктара Сазонава засудзілі да штрафу – ён мусіць выплаціць 21 базавую велічыню.

У кватэру былой актывісткі Маладога Фронту Вольгі Камягінай спрабавалі трапіць няведомыя людзі, а пад вокнамі кватэры стаяў мікрааўтобус зь людзьмі ў цывільным. Пасьля таго, як Вольга Камягіна, якая была дома разам зь дзіцём, пачала тэлефанаваць незалежным журналістам, ціхары зьехалі. Вольга Камягіна нядаўна выклала ў сваім блогу інфармацыю пра тэлефонныя размовы з супрацоўнікам КДБ, які хацеў яе дапытаць з нагоды ўдзелу ў "Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі". Вольга тады адмовілася без позвы ісьці на сустрэчу, якая мела адбыцца ў будынку КДБ.

12 кастрычніка ў Гародні адбылося паседжаньне адміністрацыйнай камісіі Ленінскага раёну, якая аштрафавала маладафронтаўцаў Алеся Кіркевіча і Вераніку Велігор на 10 базавых велічынь кожнага, што складае ў эквіваленце па 350 тысяч рублёў. Напомнім, што грамадскіх актывістаў затрымалі уначы яшчэ 17 верасьня, калі яны расклейвалі на слупах абвесткі пра маўклівую акцыю пратэсту 21 верасьня. Тады ж міліцыянты забралі ў Велігор ноўтбук, а ў кватэры Кіркевіча здзейсьніліператрус і забралі сістэмны блок.

12 кастрычніка ў судзе Слонімскага раёну адбыўся суд над сябрам мясцовай суполкі БХД Алесем Масюком, адным з удзельнікаў Народнага сходу, які прайшоў у горадзе 8 кастрычніка. Суддзя Тамара Хамінец аштрафавала яго на

# Хроніка правапарушэнняў

### ((( Гарадзеншчына, кастрычнік )))

пяць базавых велічыняў паводле артыкулу № 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэньнях.

У Лідзе працягваецца перасьлед сілавымі структурамі журналіста незалежнага тэлеканалу “Белсат” Сяргея Карпенкі. 14 кастрычніка журналіста змусілі здаць адбіткі пальцаў, яго таксама некалькі разоў беспадстаўна затрымлівалі супрацоўнікі ДАІ. Некалькі разоў Карпенку прадстаўнікі міліцыі імкнуліся затрымаць у час здымкаў, нават за горадам. Прыкладам, такая спроба была 6 кастрычніка ў час здымкі каля мясцовай паліклінікі, затрымлівалі машыну з журналістам і 8 кастрычніка ў дзень Народнага сходу.

Гісторыя з выдачай Віктару Сазонаву пастановы суду Ленінскага раёну Гародні пра тое, што яго аштрафавалі, дайшла да свайго завяршэньня. Віктар Сазонаў ніяк не мог дамагчыся копіі пастановы суду. У адказ на яго адпаведную заяву 14 кастрычніка была падрыхтаваная такая копія, але выслалі яе чамусьці толькі 20 кастрычніка, калі мінуў тэрмін абскарджаньня прысуду, пра што сьведчыць штамп пошты. Такім чынам дзяржава пазбаўляе грамадзянаў права на абскарджваньне судовых прысудаў.

40 базавых велічынь – штраф такой велічыні мае выплаціць кіраўнік Слонімскай суполкі Партыі БХД Іван Бедка. Судовы працэс вёў суддзя Іван Ластоўскі. Як сьведкі выступілі супрацоўнік ідэалагічнага аддзелу выканкаму і міліцыянт, які затрымліваў актывіста 8 кастрычніка.

19 кастрычніка да Міхаіла Васільева, удзельніка акцыі маўклівага пратэсту, якая праходзіла ў Гародні 3-га ліпеня, без папярэджаньня ўварваліся ў дом судовыя выканаўцы і сталі забіраць маёмасьць. Растлумачылі яны гэта тым, што Міхаіл Васільеў не выплаціў штраф, накладзены на яго за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве суддзём Ленінскага раённага суду Гародні Дзьмітрыем Кедалем. Пары тым прадстаўнікі закону не паказалі аніякіх дакумантаў, якія б пацьвярджалі іх паўнамоцтвы, а проста хапалі тое, што маглі хутка вынесці. Спачатку яны паспрабавалі вынесьці лядоўню, але потым абмежаваліся кампутарнай тэхнікай. Патрабаваньні Васільева пакінуць яму хоць якую паперу пра канфіскаванае таксама былі ігнараваныя, як і тлумачэньні, што аштрафаваны сам шукаў магчымасьці сустрэцца з судовым выканаўцам, каб высьветліць, як ён можа часткамі выплачваць штраф. Тады яму адказалі, што менавіта той выканаўца ў адпачынку.

У ноч з 26 на 27 кастрычніка была зьдзейснена правакацыя ў дачыненьні да грамадскага праваабаронца з Гародні Рамана Юргеля. Прыблізна ў гадзіну ночы ў дзьверы яго кватэры пазванілі. Калі Юргель запытаўся хто там, яму жаночы голас адказаў, што здзейснены напад. Жанчына, не прадставіўшыся, заявіла, што яна супрацоўніца міліцыі і просіць адчыніць дзверы, каб праз хатні тэлефон выклікаць “своих ребят – сотрудников милиции, чтобы они разобрались”. Раман Юргель не паверыў такому тлумачэньню і прапанаваў жанчыне пазваніць таксама ў дзьверы іншых суседніх кватэраў. Пасьля гэтага няведомая асоба адразу зьнікла.

27 кастрычніка кіраўніка слонімскай суполкі БНФ Іван Шэгу выклікалі ў аддзяленьне ДАІ Слонімскага РАУС, дзе аштрафавалі на 35 тысяч беларускіх рублёў за тое, што ён нібыта 8 кастрычніка, едучы з Слоніма ў Менск, размаўляў праз мабільны тэлефон.



# Паштоўка палітвязню

***Здавалася б, што ўжо можа быць прасцей, чым адправіць каму-небудзь паштоўку з віншаваннямі і пажаданнямі. Асабліва калі ёсць такая нагода. Аказваецца, у нас і гэта не так проста як здаецца. Хоць нагода ёсць вялікая. Набліжаюцца Калядныя і навагоднія святы. Людзі мітусяцца, каб знайсці якія падарункі родным, блізкім ды знаёмым. Шукаюць патрэбнае. А больш напружваюць мазгі над тым, які гэта мусіць быць падарунак. Цешацца, калі ведаюць чым парадаваць блізкага чалавека. Бо галоўнае ў гэтай справе менавіта ведаць, што прынясе чалавеку прыемнасць.***

А вось тым, хто асуджаны і адбывае пакаранне, асабліва нічога і не прыдумаеш. Нельга нічога. У астрогах на Беларусі ўсё жорстка рэгламентавана колькі і каму можна перадаць перадачаў, і што там, у тых перадачах, можа быць. Таму, калі выбіраеш падарунак зняволенаму, усю перадсвяточную рэкламу можна і не глядзець. Бо нельга падарыць у вязніцу, прыкладам, мабільны тэлефон, хоць ён там вельмі патрэбны. Або традыцыйную навагоднюю бутэльку шампанскага. Таксама не была б лішняй.

Застаецца толькі паштоўка. Яе, нібыта, яшчэ можна пасылаць. Падарунак невялікі, але таму, хто знаходзіцца ў цяжкіх умовах зняволення, сэрца парадаваць можа. І чалавеку за кратамі стане крыху лягчэй. Ды і самому стане прыемна, што ў тваёй душы яшчэ цепліцца хрысціянская, і ўвогуле звычайная чалавечая патрэба парадаваць іншага. Асабліва ў адно з найвялікшых хрысціянскіх святаў.

Застаецца толькі паштоўку выбраць адпаведную. Каб прыгожая была, стылёвая. З густам. І галоўнае, каб на ёй надпіс быў панашаму, па-беларуску. Бо паштоўка не абы каму, а людзям, якіх праваабарончыя і іншыя шматлікія арганізацыі, і свае і замежныя, абвясцілі вязнямі сумлення. Хоць беларускія ўлады гэтага і не прызнаюць. Няма, кажуць яны, у нас палітычных зняволеных. Але кожны можа і сам думаць.

А што тычыцца мовы, то з большага тыя людзі нават на судах размаўлялі па-нашаму. Дык на якой жа мове ім мусіць быць паштоўка? Толькі па-беларуску.



У гарадзенскіх кнігарнях паштовак безліч. Зайшоў у адну, ажно вочы разлятаюцца. Выбірай якую хочаш. Вось толькі па-нашаму ніводнай не знайшлося. Усе па-руску. Паунуўся ў другую. І там тое сама. Думаю, адзін не спраўлюся з такой звышскладанай задачай, паштоўку набыць. Стаў прасіць знаёмых дапамагчы. А ў тых такая самая праблема. Кажуць, зноў дэфіцыт вярнуўся ў дзяржаву нашую. Гэтым разам на прадукцыю на беларускай мове.

Толькі праз дзень усім разам удалося знайсці паштоўкі на роднай мове. Праўда, не зусім тое, што хацелі. Не знайшлося паштовак з надпісам “З Калядамі !”, або “З Божым нараджэннем !”. Не было нават “З Новым годам !”. Знайшлі проста з адным словам “Вншую !”. І “Са святам !”. І тое так усцешыла, што не маглі нарадавацца. Як жа мала трэба чалавеку для шчасця!

А пасля, падпісваючы паштоўкі людзям з якімі сябраваў, або працаваў, або проста быў знаёмым ці аднадумцам, Алесю Бяляцкаму, Андрэю Саннікаву, Паўлу Севярынцу ды іншым зняволеным, увесь час думаў, што трэба напісаць паштоўку з пажаданнем хутчэйшага вызвалення з вязніцы і беларускай мове. Бо яна таксама за кратамі. Сядзіць у астрогу палітзняволенай. Толькі куды яе пасласць, тую паштоўку?

З гэтымі думкамі і прыйшоў на пошту. І там, пасля размовы з адной з супрацоўніц, зразумеў, што мушу напісаць гэты артыкул. Яна ўбачыла, што я пішу на канверце нашае “і” з кропкай і ўскрыкнула:

– Ой, прасціце меня. Вы хіба пасылаеце адкрыткі за граніцу, а я вам наклеіла маркі па Беларусі.

– Не за мяжу пасылаю, а ў астрогі, – адказваю я.

– Куды, куды? – Не зразумела дзяўчына.

– У турму, – удакладняю.

– В цюрму? В нашу? – Збянтэжана спытала яна.

– У вашу, у вашу, – адказваю ёй.

І тут у яе вачах я ўбачыў звычайнае чалавечае спачуванне, дабрыню і шчырае жаданне дапамагчы бліжняму чым можа.

І я ўдзячны ёй. Хоць ад яе дапамогі, яшчэ больш пагана на душы стала.

– Дык вы не мучайцесь, – параіла яна. – В нашу цюрму можна і па руску пісаць.

*Віктар Сазонаў*

# Ад 19-га да 19-га

***Пішучы гэты артыкул якраз пад 19-га снежня – гадавіну падзей у сталіцы Беларусі, само сабой прыходзіш да падсумавання гэтага няпростага каляндарнага адрэзку. Кожны пражыты год прыносяць нам новыя страты і расчараванні, хваробы і выпрабаванні, спакусы і выклікі. У старым тэлефонным нататніку ўсё болей з’яўляецца прозвішчаў у рамачках тых, хто адышоў у лепшы свет, а ў мабільных тэлефонах нумароў тых, хто ўжо ці пакуль недасяжны – адны ў турме, іншыя за мяжой. 19-га снежня 2010 году стала тым паваротным пунктам адліку, пасля якога ўсе палітычныя, грамадскія, сацыяльныя працэсы пайшлі куды хутчэй і выразней.***

Год быў надзвычай цяжкі для ўсіх насельнікаў Беларусі, а для некаторых нават трагічным. Выбух у мінскім метро прынёс смерць больш дзесятка чалавек, многія іншыя былі скалечаны, у беларускія сем’і прыйшла бяда такога кшталту, якога раней у краіне не было. Зараз адны вельмі хочуць хутчэй забіць яшчэ двух чалавек, выканаўцаў тэрарыстычнага акту, віна якіх да канца не ясная і не даказаная. Іншыя іх бароняць – з прычыны, што забіваць людзей нельга і з той мэтай, каб даведацца ўсю праўду. За кратамі ў турмах, у нялюдскіх умовах, якія па-сутнасці ёсць катаваннямі, дагэтуль знаходзяцца зняволеныя пасля 19 снежня, з’яўляюцца іншыя палітвязні.



Год прывёў да краху некаторых таталітарных рэжымаў, пераважна ў арабскім свеце. Іншыя дыктатуры таксама пахіснуліся, далі трэшчыну, але працягваюць усімі спосабамі ўтрымліваць уладу, не шкадуючы сваіх грамадзянаў, не грэбуючы сама гнюснымі сродкамі. Але праўда пра іх спакваля праяўляецца і становіцца ўсведамленнем і здабыткам усё большай колькасці насельнікаў тых краін, дзе няма асноўных канстытуцыйных дэмакратычных свабодаў, няма вяршэнства закону, няма сапраўдных выбараў. Гутарка тут пра Расію, Беларусь, Казахстан…

Палітыкі пражываюць сваё жыццё па рознаму. 18 снежня памёр Вацлаў Гавэл, вялікі чэшскі дысідэнт, выдатны еўрапейскі палітык і мысляр. Чалавек, які сцвердзіў праўду ўсім сваім жыццём, прынёс гонар сваёй нацыі, трымаўся сапраўдных еўрапейскіх гуманістычных прынцыпаў, якіх амаль не засталося ўжо на кантыненце. Палітык, які разам з сваімі аднадумцамі дасягнуў перамогі і застанецца ў памяці як выдатны чалавек. Ягоным іменем назавуць пляцы і вуліцы многіх чэшскіх гарадоў, некалі будзе ён належна ўшанаваны і ў Беларусі – за тое, што ўвесь час маральна падтрымліваў дэмакратычную супольнасць, падаваў свой голас у абарону несправядліва пакрыўджаных, незаконна засуджаных.

Зусім іншым быў канец лібійскага чалавеканенавісніка Муамара Кадафі, імем якога зараз называюць толькі сабак, што ў арабскім свеце лічыцца вялікай абразай. І праўда перамагае заўсёды. Вось адкрылася праўда пра былога французскага прэзідэнта Жака Шырака, выявілася, што ўся яго палітычная кар’ера была фальшывай. На жаль, у сённяшняй Еўропе куды больш такіх “шыракаў”, чым “гавэлаў”…

Згадваючы падзеі гадавой даўніны, можна яшчэ раз сцвердзіць, што ў нас была гэтая плошча, на якую беларусы “прынеслі сваю праўду”. Была і ёсць годнасць нацыі, якую не растаптаць ботамі карнікаў, не знішчыць іх дубінамі і змрочнымі турмамі. Зараз сярод бальшыні беларускіх грамадзянаў, якія задумваюцца пра лёс сваёй шматпакутнай Бацькаўшчыны і пра свой асабісты лёс, дамінуюць песімістычныя настроі. Але не трэба паддавацца такім настроям. Тыя ж чэхаславацкія дысідэнты ў камуністычныя часы складалі свае аддаленыя планы змагання і марылі, што дасягнуць свабоды праз якіх дваццаць гадоў. А яна – гэтая вольнасць, прыйшла зусім нечакана, праз пару тыдняў.

І кожны год, разам з Раством Збаўцы, нараджаецца і надзея на тое, што свет стане крыху лепшым, што новы год прынясе збаўленне ад зла, нараджаецца вера, што ўсё мае сваё вымярэнне і свой сэнс.

“Беларусы дачакаюцца лепшых часоў” – сказаў нам усім Вацлаў Гавэл.

***Уладзімір Хільмановіч***

**1 студзеня**

545 гадоў таму (1467) – Нарадзіўся Жыгімонт І Стары, вялікі князь літоўскі і кароль польскі ў 1506-48 гг.

85 гадоў таму (1927) – У в. Лозкі (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Кастусь Рамановіч, удзельнік падпольнага Саюзу Вызваленьня Беларусі ў Навагрудку, вязень савецкіх канцлягераў.

80 гадоў таму (1932) – У Смургонях нарадзіўся Часлаў Цыбоўскі, удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смургонях ў 1949-1950.

**4 студзеня**

95 гадоў таму (1917) – У в. Юшкі (Астравецкі р-н) нарадзіўся Віктар Ярмалковіч, беларускі юрыст, гісторык, краязнавец, дзеяч БХД.

**5 студзеня**

120 гадоў таму (1892) – У в. Баброўнікі (Беласточчына) нарадзіўся Вацлаў Лукша, беларускі каталіцкі сьвятар. З 1925 г. працаваў у Ваўкавыску, з 1931 у Гародні.

**6 студзеня**

120 гадоў таму (1892) – У в. Арляняты (Смургонскі р-н) нарадзіўся Адам Станкевіч, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзка-культурны дзеяч, асьветнік, культуроляг, выдавец, публіцыст.

**7 студзеня**

Каляды (Раство Хрыстова) па юльянскім праваслаўным календары.

**9 студзеня**

110 гадоў таму (1902) – У в. Збляны (Зельвенскі р-н) нарадзіўся Антон Жэбрак, беларускі грамадзкі дзеяч.

**10 студзеня**

115 гадоў таму (1897) – У мяст. Поразава (Сьвіслацкі р-н) нарадзілася Юлія Бібіла, беларуская бібліёграфка.

**15 студзеня**

270 гадоў таму (1742) – Нарадзіўся (Вількамірскі пав.) Францішак Нарвойш, асьветнік, багаслоў, філосаф, матэматык. Жыў і працаваў у Гародні.

85 гадоў таму (1927) – Памёр Давыд Яноўскі, адзін з мацнейшых шахматыстаў сьвету канца 19-пач. 20 ст.

**17 студзеня**

280 гадоў таму (1732) – У маёнтку Воўчын (Камянецкі р-н) нарадзіўся Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, апошні кароль Рэчы Паспалітай, вялікі князь літоўскі ў 1764-95 гг. У Гародні меў рэзідэнцыі – Панямунь, Станіслававa, Аўгустовак.

**20 студзеня**

120 гадоў таму (1892) – У засьценку Мацюлішкі (Віленскі пав., цяпер Летува) нарадзіўся Браніслаў Тарашкевіч, беларускі грамадзка-палітычны і асьветны дзеяч, мовазнавец, публіцыст, перакладнік, літаратуразнавец. Часта бываў у Гародні, быў зьняволены польскімі ўладамі ў Гарадзенскую турму з 1927 па 1930.

120 гадоў таму (1892) – У в. Шакуны (Пружанскі р-н) нарадзіўся Рыгор Шырма, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, харавы дырыжор, фальклярыст, публіцыст. Пэўны час жыў у Гародні.

**22 студзеня**

Пачалося нацыянальна-вызвольнае паўстаньне 1863 году.

**24 студзеня**

215 гадоў таму (1797) – У мяст. Дзярэчын (Зельвенскі р-н) нарадзіўся Цімафей Ліпінскі, гісторык, географ, філолаг, калекцыянэр, краязнавец.

185 гадоў таму (1827) – У фальв. Кункулка (Лідзі пав.) нарадзіўся Аляксандар Далеўскі, удзельнік вызвольнага руху.

**26 студзеня**

105 гадоў таму (1907) – У в. Грэлікі (Вялейскі р-н) нарадзіўся Мікалай Лапіцкі, праваслаўны сьвятар, рэлігійна-грамадзкі дзеяч беларускага замежжа (ЗША). У 1934-35 працаваў у Ашмяне.

**27 студзеня**

85 гадоў таму (1927) – Памёр Юры Матулевіч (Матулайціс), рымска-каталіцкі рэлігійны дзеяч Заходняй Беларусі і Летувы, блаславёны.

**28 студзеня**

415 гадоў таму (1597) – Памёр Мікалай Дарагастайскі (нар. каля 1530), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Меў друкарню ў Мураванай Ашмяне (Ашмянскі р-н).

300 гадоў таму (1712) – У Дзятлаве нарадзіўся Ульрык Крыштап Радзівіл, дзяржаўны дзеяч ВКЛ, пісьменьнік.

90 гадоў таму (1922) – У в. Клімавічы (Лідзкі р-н) нарадзіўся Янка Жамойцін, беларускі грамадзкі дзеяч.





Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь «Прэзумпцыя»
наклад 299 асобнікаў

падрыхтаваны да друку: снежань 2011
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма